Гродна
№3 (509),
10 лютага 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Адкрыць даручаную місію і палюбіць яе



27 студзеня ў Панаме завяршыліся XXXIV Сусветныя дні моладзі. У іх прынялі ўдзел 100 тысяч католікаў са 156-ці краін, у тым ліку з Беларусі. Маладыя людзі вярнуліся з далёкага краю ў свае дамы з распаленымі сведчаннем веры сэрцамі і ўпэўненасцю, што СДМ прынясуць добры плён у іх сем’ях, асароддзях і парафіях. Якія падзеі пакінулі ў іх памяці глыбокі след? Якія словы і жэсты ўзрушылі іх сэрцы?

● праця г на с. 4

“Любоў Пана больш ведае аб пад’ёмах, чым аб падзеннях, аб будучыні, чым аб мінулым”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**V ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 5, 1–11**

Натоўп цісну́ўся да Езуса, каб слухаць слова Божае, а Ён стаяў каля возера Генэзарэт. І ўбачыў Ён два чаўны, якія стаялі каля возера, а рыбакі выйшлі з іх і паласкалі сеткі. Увайшоўшы ў адзін з чаўноў, які належаў Сымону, папрасіў яго крыху адплысці ад берага. Тады Ён сеў і вучыў людзей з чаўна. А калі скончыў гаварыць, сказаў Сымону: "Плыві на глыбіню, а вы закіньце сеткі вашыя для ўлову". Сымон сказаў Яму ў адказ: "Настаўнік, мы працавалі ўсю ноч і нічога не злавілі, але на Тваё слова закіну сеткі". Зрабіўшы так, яны злавілі вялікае мноства рыбы, аж пачыналі рвацца іхнія сеткі. Іківалі супольнікам, якія былі ў другім чаўне, каб прыйшлі дапамагчы ім. Тыя прыйшлі і напоўнілі абодва чаўны, так што яны пачалі тануць. Калі гэта ўбачыў Сымон Пётр, прыпаў да каленяў Езуса і сказаў: "Адыдзі ад мяне, Пане, бо я чалавек грэшны". Бо з-за ўлову рыбы, якую злавілі, вялікае здзіўленне ахапіла яго і ўсіх, хто быў з Ім, а таксама Якуба і Яна, сыноў Зэбэдэя, якія былі супольнікамі Сымона. Тады сказаў Езус Сымону: "Не бойся, адгэтуль будзеш лавіць людзей". А калі выцягнулі чаўны на бераг, пакінулі ўсё і пайшлі за Ім.

### ДАПАМОГА АД ПАНА

Праз цудоўны ўлоў Хрыстос хацеў навучыць сваіх апосталаў, а таксама нас, сучасных людзей, што толькі адданай працы і шчырых намаганняў не дастаткова. Неабходны яшчэ абсалютны давер да Бога і старанная малітва аб Яго дапамозе. Без яе кожны чалавечы высілак марнуецца. Як гаворыць Псалміст, "калі Пан дому не збудуе, дарэмна над ім рамеснік працуе... Дарэмна вам уставаць на досвітку і сядзець дапазна..." (Пс 127, 2–3).

Вядома, мы не можам чакаць дапамогі ад Пана са складзенымі рукамі. Павінны вырашаць справы і праблемы, даручыўшы ўсё Усемагутнаму з непахіснай верай у тое, што Ён удзеліць нам сваю дапамогу.

**Ці здольны я папрасіць дапамогі?**

**Што раблю, каб Хрыстос мог мне дапамагаць?**

**VI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 6, 17. 20–26**

Езус сышоў з Дванаццаццю ўніз і стаў на раўніне. І быў там вялікі натоўп вучняў Ягоных і вялікае мноства людзей з Юдэі і Ерузалема, з узбярэжных ваколіц Тыра і Сідона. Тады Ён узняў вочы свае на вучняў сваіх і сказаў: "Шчаслівыя ўбогія духам, бо ваша ёсць Валадарства Божае. Шчаслівыя, якія цяпер галадаеце, бо насычаны будзеце. Шчаслівыя, якія цяпер плачаце, бо смяяцца будзеце. Шчаслівыя вы, калі ўзненавідзяць вас людзі, і калі адрынуць вас, і будуць зневажаць, і з-за Сына Чалавечага адкінуць імя вашае, як зло. Радуйцеся ў той дзень і весяліцеся, бо вялікая ўзнагарода ваша ў небе. Бо так паступалі з прарокамі айцы іхнія. Але гора вам, багатыя, бо вы ўжо атрымалі сваё суцяшэнне. Гора вам, якія цяпер сытыя, бо галадаць будзеце. Гора вам, якія цяпер смяецеся, бо смуткаваць і плакаць будзеце. Гора вам, калі ўсе людзі будуць добра казаць пра вас, бо так паступалі з фальшывымі прарокамі айцы іхнія".

### БОЖАЯ ПЕРАСЦЯРОГА

Часта шчасце атаясамліваецца ў людзей з рахункам у банку, з валоданнем прыгожым аўтамабілем, утульнай кватэрай, з жыццём, напоўненым прыемнасцямі, забавамі, смехам... Аднак такім людзям Езус скіроўвае словы: "Гора вам". Шчаслівыя не багатыя, вядомыя, якія бавяцца, смяюцца і добра жывуць, а ўбогія духам, бедныя, хворыя, самотныя, пакінутыя, якія плачуць.

Хрыстос не кажа, што багацце ці поспех у жыцці дрэнныя самі па сабе. Ён – які ёсць Любоў – прагне толькі перасцерагчы нас ад небяспекі. Як найлепшы Знаўца чалавечых сэрцаў Ён добра ведае, што спадзяванне на багацці і даброты гэтага свету можа стаць прычынай вялікага апусташэння ў душы чалавека.

**Якія словы Езус скіраваў бы сёння мне?**

**Чаго я ўсім сэрцам жадаю і на што спадзяюся?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**


*Кс. Юрый Марціновіч*

# Надзея Касцёла

*Апошнія Сусветныя дні моладзі, якія адбыліся ў Панаме, у чарговы раз сталі святам радасці і надзеі для ўсяго Касцёла, а таксама сапраўдным сведчаннем веры для свету.*

Галоўнай мэтай гэтага сусветнага форуму, у якім удзельнічала таксама група моладзі з Гродзенскай дыяцэзіі, была сустрэча з Хрыстом, з жывым Паўсюдным Касцёлам і са Святым Айцом. Менавіта для гэтага СДМ былі задуманы св. Янам Паўлам ІІ. На працягу 33-ох гадоў маладыя людзі, якія належаць да розных культур і народаў, разважаюць на розных мовах, маюць розны жыццёвы вопыт, прымаюць удзел у гэтай цудоўнай падзеі, каб перажыць сапраўдную радасць ад таго, што знаходзяцца разам.

Каб прыбыць на казачнае панамскае ўзбярэжжа, моладзі трэба было адважыцца на цяжкасці падарожжа, перадолець шмат кіламетраў дарогі, дасведчыць пэўныя ахвяры. Папа Францішак дадаваў ім упэўненасці і рашучасці, заахвочваючы быць "сапраўднымі майстрамі і будаўнікамі культуры сустрэчы".

На СДМ не магло не быць Марыі. Менавіта на Яе спасылаўся дэвіз сёлетняга свята маладых: "Гэта я, слуга Пана, няхай мне станецца паводле твайго слова" (Лк 1, 38). Варта адзначыць, што панамцы падтрымліваюць асаблівы і заўсёды жывы культ Найсвяцейшай Панны. У гэтай маленькай краіне, якая прыняла тысячы маладых людзей з усяго свету, Маці Божая ў фацімскай фігуры стала не толькі Заступніцай, але і Пілігрымам: у адмысловай Палатцы сустрэчы на Яе аблічча была павешана пілігрымская акрэдытацыя.

Падчас форуму выразна ўзрадаваны магчымасцю разважаць па-іспанску і знаходзіцца ў "роднай частцы свету" папа Францішак заклікаў маладых, каб сказалі Богу "так", падобна як учыніла гэта Марыя, і служылі іншым. Святы Айцец тлумачыў, што гэтае служэнне павінна заснoўвацца на ўмелым слуханні саміх сябе і дапаўняючым слуханні адзін аднаго, "абвяшчаючы Пана ў служэнні нашым братам". Біскуп Рыма таксама заахвочваў моладзь свету, каб ішла наперад, штодзённа жыла верай і дзялілася ёй з іншымі. "Не забывайцеся, што вы не «заўтра», не «між тым», а Божае «зараз»", – сказаў ён.

Вера – гэта вялікі дар, аб якім трэба нястомна клапаціцца. Губляючы веру, чалавек губляе ўсё! Становіцца духоўна бедным і няшчасным, а яго жыццё не мае ўжо ніякага сэнсу.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце памолімся за нашу моладзь, каб сваім досведам веры, новым і свежым поглядам на Касцёл яна магла ўсіх нас узбагаціць: каб вучылася мастацтву слухаць, якое з'яўляецца чымсьці большым, чым толькі слуханнем. Папросім аб мужнасці, каб падрастаючае пакаленне вызнаўцаў Хрыста ніколі не баялася ісці наперад, дзелячыся сваім часам і сваёй радасцю, прыкладам уласнага жыцця, несучы свету Евангелле.

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах душпастырства моладзі

Маладосць мае вельмі важнае значэнне. Яна з'яўляецца нібы падмуркам, на які павінна абапірацца ўсё будаванне жыцця чалавека і які часам у значнай ступені вырашае не толькі яго будучыню, але нават вечнасць. Маладыя сёння працуюць на "рынку" канкурыруючых светапоглядаў. Сучасны свет мае мноства займальных прапаноў для асоб, што робяць першыя крокі ў дарослае жыццё, а "аферты" Касцёла неаднойчы ўспрымаюцца моладдзю як незахапляльныя і нават устарэлыя. Малады чалавек часта сутыкаецца з сур'ёзнымі праблемамі, калі стараецца неяк адшукаць сябе ў гэтым свеце. Каб выйсці на добрую дарогу, яму неабходны аўтарытэты, правадыры, сапраўдныя арыенціры, якія прывядуць да праўды.

Сінадальная камісія па справах душпастырства моладзі, бачачы ўсе агні і цені гэтага перыяду жыцця, распазнаючы жаданні маладых людзей, хоча выпрацаваць адпаведныя актуальныя метады, каб эфектыўна да іх "дабрацца". Гэтыя метады павінны дазволіць Касцёлу ўмела весці моладзь, каб праз некаторы час яна змагла ўсвядоміць, што сутнасць рэлігійнага жыцця заключаецца ў Эўхарыстыі і сакрамантах. Менавіта там адбываецца рэальная сустрэча з Хрыстом, якая, у выніку, перамяняе сэрца і ўплывае на паўсядзённасць.

Першая задача камісіі – адэкватная дыягностыка: якім на самой справе з'яўляецца малады чалавек, якія мае самыя глыбокія жаданні, у якіх рэаліях жыве, з якімі рызыкамі і праблемамі сутыкаецца. Правільны дыягназ павінен прывесці да канкрэтных указанняў, якія – мы спадзяёмся – будуць карыснымі для маладых людзей у раскрыцці іх унікальнай ідэнтычнасці ў грамадстве і ў свеце, а таксама аблегчаць распазнанне паклікання, якім кожнага з іх адарыў Стварыцель.

Чарговым крокам стане апрацоўка фармацыйнай праграмы, якая будзе фарміраваць маладога чалавека ў духу евангельскіх каштоўнасцей, а таксама прапануе новыя рашэнні, беручы пад увагу бягучую сітуацыю і патрэбы маладых людзей у розных сферах жыцця.

Іншай важнай задачай сінадальнай камісіі з'яўляецца падрыхтоўка адпаведнай падтрымкі для душпастыраў моладзі, каб маглі эфектыўна і ўпэўнена накіроўваць маладое пакаленне да Езуса. Бясспрэчна, усё гэта павінна дапамагчы абудзіць у маладзёнаў эклезіяльную свядомасць і нарадзіць жаданне стварыць супольнасць ды несці адказнасць за Касцёл.

Камісія па справах душпастырства моладзі з'яўляецца доказам таго, што за сінадальным сталом павінны быць прадстаўнікі маладога пакалення. Моладзь – надзея ўсяго Касцёла. Такім чынам, маладыя людзі нашай дыяцэзіі – калі толькі захочуць – змогуць вельмі станоўча паўплываць на абмеркаванні Сінода, каб праз некалькі гадоў уключыцца ў евангелізацыйную місію дыяцэзіяльнага Касцёла.

Кожны малады чалавек, які клапоціцца пра развіццё і дабрабыт хрысціянскай супольнасці, мае права гаварыць і можа адчуваць сябе ўдзельнікам "навяртання", да якога заклікаены ўвесь Касцёл праз трываючы І Сінод Гродзенскай дыяцэзіі.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# З даверам і апекай.

# Разважанні да Сусветнага дня хворых

*Хвароба – складаны досвед у жыцці кожнага чалавека. Як мы будзем ставіцца да блізкай асобы, калі яна заняможа? Ці будзем цярплівыя да яе слабасцей? Дзе возьмем узор належнага стасунку?*

*Як будзе паводзіць сябе сам чалавек, даведаўшыся пра цяжкі дыягназ? Шмат у чым рэакцыя вызначаецца яго тэмпераментам: халерык адрэагуе больш эмацыйна, флегматык – стрымана, а меланхолік паддасца трывозе. Аднак, на шчасце, чалавек – гэта не толькі біяфізіка.*

## Вера як суцяшэнне ў хваробе

***“Часцей за ўсё першай рэакцыяй на дыягназ, які прадугледжвае доўгае, а то і пажыццёвае лячэнне, з’яўляецца пачуццё несправядлівасці – «За што?». Гэта натуральная рэакцыя, але цікава тое, што адбываецца далей: людзі няверуючыя, якія спадзяюцца толькі на сябе, хутка губляюць сілы і ўпэўненасць. Разам з імі сыходзіць жаданне змагацца, узнікае злосць на самога сябе і людзей навокал. Чалавека запаўняе пачуццё адчаю і бессэнсоўнасці, што прыводзяць да маркоты”,*** – адзначае на падставе ўласных назіранняў псіхолаг Ларыса Воўкава, якая працуе ў Гродзенскай абласной інфекцыйнай клінічнай бальніцы. Жанчына заўважае, што веруючы чалавек рэагуе на крытычную сітуацыю інакш.

***“Хвароба для хрысціяніна – гэта напамін аб тым, што нешта ў жыцці пайшло не так. Таму чалавек, які жыве з верай, паставіць пытанне не «за што?», але «для чаго?» так здарылася”,*** – дадае спадарыня Ларыса.

***“Мяркую, што менавіта атрыманыя адказы і дадаюць бадзёрасці”,*** – пагаджаецца хірург Андрэй *(мужчына папрасіў не ўказваць прозвішча – заўв. рэд.)*. Ён таксама адзначае, што веруючыя людзі з большай трываласцю перажываюць крызіс.

***“Ва ўрачэбнай практыцы мне давялося сутыкнуцца з жанчынай, якой паралізавала цела ніжэй пояса. Аб выздараўленні гаворкі не ішло, толькі аб падтрыманні яе жыццёвых функцый. Зразумела, калі падобны дыягназ ставяць у 30 з лішнім гадоў, цяжка захаваць душэўную раўнавагу і не ўпасці духам. Жанчына пачала шукаць стымул. Неўзабаве я даведаўся, што яна прыняла хрост. Назіраючы за пацыенткай, заўважыў, што ў ёй з’явілася пэўная лёгкасць і яна стала значна прасцей перажываць сітуацыю”,*** – распавядае спадар Андрэй. Хвароба адняла ў жанчыны здароўе, але дзякуючы веры не змагла пазбавіць радасці і аптымізму.

Як тлумачыць псіхолаг, разуменне сэнсу хваробы ці, прынамсі, яго пошук дазваляе чалавеку не ўпасці ў роспач і адчай. Вера дае мужнасць прыняць Божую волю, якой бы яна ні была, бо хрысціянін ведае, што гэтая воля заўсёды накіравана на ацаленне яго несмяротнай душы.

***“Нават у выпадку невылечнай хваробы, калі асоба ведае, што знаходзіцца на мяжы жыцця і смерці, давер Госпаду дапамагае ёй пераносіць боль і дае надзею. Кожны з нас пакліканы ў Нябеснае Валадарства, і я асабіста моцна цешуся, калі чую ад пацыента: «Я ведаю, Бог прывядзе, куды трэба, нават калі хвароба хоча, каб я здаўся і заняпаў душой»”,*** – дзеліцца спадарыня Ларыса.

## Моц духа ў перамозе над фізічнай немаччу



Сапраўды, неаднаразова можна назіраць, як людзі, адданыя Богу ўсім сэрцам, пакутуюць ад хваробы і рана сыходзяць з жыцця. Не з’яўляючыся гарантыяй ацалення, вера служыць ім невычэрпнай крыніцай суцяшэння. Аднак здараецца, што духоўныя сілы цалкам пануюць над целам і перамагаюць самыя цяжкія захворванні.

***“Мне неаднаразова даводзілася быць сведкам выпадкаў, якія інкаш, чым цудам, не назавеш. Калі ўрачы прагназавалі смерць, а чалавек захоўваў жыццё. Калі ў безнадзейных сітуацыях пацыент не толькі выжываў, але і папраўляўся,*** – распавядае спадар Андрэй. – ***Аднойчы да нас у аддзяленне паступілі 2 жанчыны амаль аднаго ўзросту з прыкладна аднолькавым дыягназам – захворванне падстраўнікавай залозы. Абедзве трапілі ў рэанімацыю, запалі ў кому. Выжыла веруючая жанчына, не зважаючы на тое, што знаходзілася ў значна цяжэйшым стане”.*** Хірург упэўнены, што калі ў хворым целе заключаны здаровы дух, арганізм не здаецца.

Гэтае меркаванне падзяляе і спадарыня Ларыса: ***“Сапраўды, дадзеную ўзаемасувязь можна растлумачыць з медыцынскага пункту гледжання. Веруючы чалавек больш спакойны, пакорны, менш схільны да стрэсу, а значыць і імунітэт, і ахоўныя сілы арганізма мацнейшыя, што дапамагае яму хутчэй вярнуцца да здароўя”.***

Псіхолаг упэўнена, што можна пераадолець нават цяжкую хваробу, калі ўнутраная моц чалавека напаўняе яго надзеяй і дае энергію для барацьбы.

## З лагоднасцю ў стасунку да хворага



Большасць з нас на пэўных этапах свайго жыцця сутыкаецца з хваробай – сваёй або кагосьці з бліжніх. У першым выпадку мы як дзеці Божыя чэрпаем сілы з упэўненасці ў Айцоўскім клопаце. У другім – павінны самі атуліць клопатам чалавека побач. Прыклад стаўлення, якога патрабуе хворы, добра адлюстроўваюць урачэбныя нормы. Яшчэ з часоў развіцця медыцыны як навукі і практыкі яны грунтаваліся на маральнасці і звярталіся да сумлення лекараў.

Як адзначае спадар Андрэй, урачэбная практыка ведае розныя тыпы паводзін доктара. Некаторыя вылучаюцца паводле ўзроставага фактару. Калі пацыент значна малодшы за ўрача, выкарыстоўваецца мадэль патэрналізму (ад лац. pater – “тата”). У такіх выпадках доктар становіцца для хворага нібы заступнікам, атачаючы яго бацькоўскім клопатам. Пацыент, у сілу перажывання пакуты, якраз мае патрэбу ў падобным стаўленні. Будучы прыкладна ў аднолькавым узросце з хворым, урач намагаецца пабудаваць з ім сяброўскія адносіны, робячы акцэнт на роўнасці і ўзаемапавазе паміж імі. Зважаючы на падобнае стаўленне з боку прафесіянала, пацыент лягчэй прымае інфармацыю адносна хваробы і метадаў яе лячэння.

***“Калі маем дачыненне са старэйшай асобай, зразумела, ставімся да яе паблажліва. Чалавеку ў сталым узросце заўсёды прабачаем капрызы, пэўныя недахопы,*** – гаворыць хірург. – ***Разам з тым, паводзіны ў стаўленні да хворага часта вызначае яго эмацыйны стан. У выпадку з п’яным пацыентам неабходна праявіць цвёрдасць, каб прадухіліць непажаданыя дзеянні з яго боку. Калі чалавек у істэрыцы, недапушчальнай з’яўляецца павышаная інтанацыя ці рэзкае слова, прымальна толькі беражлівае стаўленне”.***

Кодэкс урачэбнай этыкі заклікае да аднолькава сур’ёзнага і паважлівага падыходу да пацыентаў. Выконваючы яго нормы, доктар ніяк не разрознівае людзей, ахвяруючы ім сваю паслугу.

***“Мы бачым толькі асобу, якая патрабуе дапамогі. Да любога чалавека трэба ставіцца з усім прафесіяналізмам, адказнасцю і тактам”,*** – падсумоўвае спадар Андрэй.

*Ангеліна Марцішэўская*

## Малітва за хворых і церпячых

**Божа, наш Ойча, няхай Твой Провід чувае над хворымі і церпячымі, каб не марнавалі цярпенне, але ўмелі яго выкарыстоўваць для службы Табе і ўключаць у ахвяру Хрыста. Дай, найлепшы Ойча, усім церпячым ласку добрага, плённага перажывання цярпення, дадавай сіл і мужнасці, суцяшай, захоўвай іх, колькі можна, дазволь несці ім аблягчэнне. Кармі іх, Ойча, Целам Твайго Боскага Сына. Жыві ў іх і будуй сваё Валадарства. Дазволь рэалізавацца пакліканням хворых, блаславі іх супольнасці. Дазволь церпячым быць карыснымі для бліжніх і Касцёла. Няхай Святы Дух вядзе іх да святасці і вечнага шчасця. Амэн.**

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Вядома, што бацька падману, д’ябал, заўсёды выбірае падзелены і сварлівы люд. Ён майстар падзелу і баіцца асоб, якія вучацца працаваць разам. Гэта крытэрый для адрознення людзей: будаўнікоў мастоў і будаўнікоў сцен. Будаўнікі сцен, якія сеяць страх, спрабуюць раздзяліць і напалохаць. Вы ж хочаце быць будаўнікамі мастоў. Вучыце нас, што сустрэча не азначае таго, што ўсе мы павінны пераймаць адно аднаго, думаць і жыць аднолькава, паўтараць тыя самыя рэчы – так робяць папугаі. Сустрэцца – значыць умець рабіць штосьці іншае – увайсці ў культуру сустрэчы. Гэта пакліканне і запрашэнне быць адважнымі, каб падтрымліваць супольную мару, да якой імкнёмся. І яна не перакрэслівае нас, а ўзбагачае. Гэта цудоўная мара, здольная задзейнічаць усіх. Мара, дзеля якой Езус аддаў сваё жыццё на крыжы, а Святы Дух сышоў і агнём Пяцідзесятніцы пазначыў сэрца кожнага мужчыны і жанчыны, тваё і маё сэрца, у надзеі, што ў ім знойдзе месца, каб расці і развівацца.*

*Фрагмент прамовы падчас адкрыцця СДМ у Паname, 24.01.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Задумаемся над такімі прыгожымі словамі: „Ён, як бацькаў сын, служыў разам са мною дзеля пашырэння Евангелля” (Флп 2, 22). Яны адкрываюць нам штосьці з таямніцы Касцёла: гэта незвычайная супольнасць, асаблівая, дзе людзей паміж сабой яднаюць вельмі блізкія і моцныя, амаль сямейныя вузы. У Касцёле мы ўсе служым адзін аднаму і такім чынам дзейнічаем для супольнай карысці, для справы самога Хрыста і Яго Евангелля. Так было ў Касцёле з самага пачатку і так адбываецца сёння. У вялікай сям’і, якую называем Касцёлам, кожны чалавек мае сваё месца і заданне для выканання, кожны тут у сябе і сваёй прысутнасцю ўзбагачае іншых.*

*Трэба памятаць, што апостальства – задача не толькі біскупаў, святароў і кансэкраваных асоб. Таксама свецкія людзі і розныя супольнасці, рухі і таварыствы, у якія яны ўваходзяць, выконваюць свае апостальскія функцыі, таму з’яўляюцца вялікім багаццем і надзеяй Касцёла. З аднаго боку, прыналежнасць да руху ці таварыства дапамагае яе членам у асабістым узрастанні ў святасці і хрысціянскай сталасці. З іншага ж боку, кожнае таварыства мае вялікую моц уздзеяння на навакольны свет, таму выконвае ў Касцёле адпаведную евангелізацыйную і апостальскую місію.*

*Фрагмент казання падчас урачыстасці юбілею 10-годдзя Апостальства дапамогі чыстцовым душам, 26.01.2019*




◆ *У бягучым годзе 41-му мільёну дзяцей у 59-ці краінах трэба забяспечыць доступ да чыстай вады, харчаванне, адукацыю, здароўе і бяспеку. Аб гэтым паведамляецца ў апошнім дакладзе ЮНІСЕФ, які датычыць гуманітарных інтэрвенцый у свеце. Каб рэалізаваць гэтую мэту, арганізацыя патрабуе 4 мільярды даляраў. ЮНІСЕФ ацаніла, што на дадзены моман самым складаным з'яўляецца становішча дзяцей у Емене, Сірыі і Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга.*

◆ *Прыняты 22 студзеня бягучага года ў штаце Нью-Ёрк закон, які дазваляе аборты па патрабаванні да 24-га тыдня цяжарнасці і ў любы тэрмін пасля, ажно да 9-га месяца цяжарнасці, у выпадку пагрозы жыццю маці, выклікаў хвалю пратэстаў з боку амерыканскіх каталіцкіх груп і таварыстваў. Губернатар штата Эндру Куома назваў гэты закон "прагрэсіўным" і выказаў надзею, што ён будзе ўведзены ва ўсёй краіне. Рашэнне штата Нью-Ёрк сутыкнулася з вострай крытыкай амерыканскіх біскупаў, якія заявілі, што яно "абсалютна не згодна з каталіцкай верай" і "парушае правы найбольш падвергнутых зраненню".*

◆ *Пантыфік прыняў у Доме св. Марты сям'ю а. Паола Даль'Оліа, езуіта, які быў выкрадзены ў Сірыі ісламскімі фундаменталістамі. Ужо 6 гадоў пра святара няма ніякай інфармацыі. Нават невядома, ці ён яшчэ жывы. А. Паола заснаваў у Сірыі экуменічную манаскую супольнасць Мар Муса. Яго высока цанілі за прыхільнасць справе міру і супрацоўніцтва паміж мусульманамі і хрысціянамі. Аўдыенцыя мела форму прыватнай і прайшла ў асабліва сардэчнай атмасферы. На ёй прысутнічала маці выкрадзенага святара, 4 сястры і брат.*

◆ *У 2019 годзе 10 кардыналаў будуць святкаваць сваё 80-годдзе і страцяць права на ўдзел у магчымым канклаве. У цяперашні час Калегія кардыналаў налічвае 223 іерархі, у тым ліку 123 упаўнаважаных да ўдзелу ў выбары Папы і 100 тых, хто ў сілу ўзросту больш не мае такога права. Самаму пажыламу кардыналу 18 лютага споўніцца 100 гадоў, а самы малады на дадзены момант мае 51 год.*

◆ *Больш за 200 карт высокай якасці, у тым ліку спутнікавых, а таксама напісаныя даступнай мовай каментарыі, прысвечаныя біблійным падзеям, уключае "Біблійны атлас". Апрацаванне задумвалася як геаграфічна-гістарычны аповед усёй гісторыі Старога і Новага Запавету. Сваім прасторавым дыяпазонам ахоплівае вобласць ад Месапатаміі на ўсходзе да Італіі на захадзе і ад Турцыі на поўначы да Егіпта на поўдні. Часавы ж дыяпазон уключае ў сябе перыяд ад XVIII стагоддзя да н.э. да I стагоддзя пасля нараджэння Хрыста. Выдаўцы адзначаюць, што "Біблійны атлас" дазволіць адправіцца ў незвычайнае падарожжа па месцах, звязаных з гісторыяй Божага Аб'яўлення.*

*ekai.pl; credo.pro; vaticannews.va; niedziela.pl*

# АДКРЫЦЬ ДАРУЧАНУЮ МІСІЮ І ПАЛЮБІЦЬ ЯЕ

● *працяг са с. 1*



## *Елізавета Богуш*

*Падчас СДМ у Паname папа Францішак адрасаваў да моладзі шмат важных слоў. І ўвечары, калі мы збіраліся разам, кожны дзяліўся тым, што яму найбольш запомнілася. Мяне вельмі ўразілі словы пра тое, што наша маладосць – гэта не ўчора, не заўтра, а сёння. Папа звяртаў на гэта сваю ўвагу і раней, але сэнс гэтага выказвання стаў цалкам для мяне зразумелым менавіта ў Панаме.*

*Апісваючы сябе, я звычайна выкарыстоўваю такія тэрміны, як "ідэалістка" і "перфекцыяністка". У маім жыцці ўсё павінна быць запланавана загадзя, мусіць быць выразнасць і пэўнасць. Такая арганізаванасць у штодзённых абавязках вельмі дапамагае, бо маючы выразны план, лягчэй дабіцца выніку і ўсё паспець. Але ў маім выпадку гэтае "планаванне" датычыцца ўвогуле ўсяго жыцця, таму, думаючы аб тым, што будзе, я часта забываюся пра тое, што жыву і існую ў гэтую канкрэтную хвіліну.*

*Там, у Панаме, адной сонечнай раніцай я сядзела на беразе акіяна, назірала за пеліканамі і ў пэўны момант злавіла сябе на тым, што не думаю ні пра што старонняе. Я не пракручвала ў галаве нейкія падзеі, хоць мне так уласціва вяртацца ў думках у сітуацыі, якія раней мелі месца, аналізаваць іх: абдумваць кожнае слова, інтанацыю і позірк. Я проста сядзела, сагрэтая цёплымі промнямі сонца, глядзела на танцуючыя хвалі, адчувала пах кветак і салёнай ціхаакіянскай вады ды назірала за пеліканамі, якія здабывалі сабе сняданак. У той момант я адчувала сябе так, быццам жыцця "да" ніколі не было, а будучыня мяне не цікавіць. Гэта была вялікая ласка ад Бога. Ён нібыта сказаў мне: "Глядзі, якім прыгожым я стварыў гэты свет, цешся тым, што бачыш". І я атрымлівала асалоду тут і цяпер, у гэту канкрэтную хвіліну.*

*Я студэнтка, і СДМ якраз саўпалі з зімовай сесіяй. Некалькі экзаменаў я здала загадзя, а частку вырашыла здаць ужо пасля вяртання дадому. Ведаючы сябе, вельмі праўдападобным было б тое, што палову свайго побыту ў Панаме я б правяла ў планаванні: калі і як ехаць ва ўніверсітэт, што, калі і як рыхтаваць да экзаменаў, якім чынам лепш арганізаваць свой час...*

*Але ў рэальнасці ўсё атрымалася зусім па-іншаму: так, як сказаў Папа. Я засяродзілася над сваім "сёння".*



## *Алена Харольская*

*На пачатку мне здавалася, што маладыя людзі едуць у Панаму ў асноўным з-за цікаўнасці і жадання ўбачыць далёкую краіну. Але я памылілася. Кожны з удзельнікаў быў сапраўднай часткай маладога практыкуючага Касцёла. Гэта былі неверагодна багатыя духоўна людзі, якія распавядалі пра сябе, сваю актыўнасць у каталіцкім асяроддзі і натхнялі мяне кожны дзень. У выніку СДМ у Панаме сталі самымі глыбокімі і незабыўнымі рэкалекцыямі, падарожжам па сапраўды Сусветнаму Касцёлу! Жывому Касцёлу!*

*Калі мы рабілі перасадку ў Франкфурце, то ўбачылі шмат хлопцаў у капелюшах, на якіх красаваўся надпіс "Дні моладзі ў Панаме". Гэта былі ўдзельнікі форуму з Германіі, якія чакалі той самы рэйс, што і мы. Разам з маладзёнамі быў таксама мясцовы біскуп, які прыйшоў блаславіць іх на добрую дарогу. Вялікая колькасць маладых католікаў маліліся са сваім пастырам пасярод аэрапорта. Неверагоднае відовішча і сапраўднае сведчанне таго, што ў Германіі ёсць "малады" Касцёл!*

*У Панамскім аэрапорце нас сустрэлі вельмі прыязна. Памежнік, які правяраў мой пашпарт, падарыў мне бранзалетку з выявамі святых – заступнікаў Дзён моладзі. А я ў знак падзякі пачаставала яго беларускімі цукеркамі.*

*Спачатку мы паехалі ў Калон Куна-Яла на Дыяцэзіяльныя дні моладзі. Нас рассялілі па сем'ях. Я была ў шоку ад таго, што ў нашым пакоі не было вокнаў, у ваннай жыла мыш, якая грызла мыла, а дождж начамі так моцна барабаніў па бляшаным даху, што здавалася, быццам на дом падаюць камяні. І якім было маё здзіўленне, калі я даведалася, што нам пашчасціла жыць ў багатым доме.*

*Пасля супольнай малітвы на ружанцы, мы атрымалі заданне: хадзіць па дамах і евангелізаваць. Шчыра кажучы, мяне гэта прывяло ў замяшанне, бо баялася, што людзі нас не зразумеюць і выганяць. Але насуперак маім асцярогам, мясцовыя жыхары аказаліся вельмі добразычлівымі, сярод іх былі і католікі, і пратэстанты. Адзінае, я была вельмі ўражана, калі ўбачыла, у якіх умовах яны жывуць. У доме магло не быць ні аднаго акна, сцены былі дзіравыя, а дахам служыў кавалак металапрофіля. Паралельна з намі па вёсцы хадзілі сведкі Іеговы. І тут у галаву прыйшла думка, што я баюся хадзіць па дамах і евангелізаваць толькі таму, што гэта выклікае асацыяцыю з сектантамі. Мне стала сумна, бо сектанты ахвотна прапагандуюць сваё, а католікі саромеюцца дзяліцца сваёй верай у праўдзівага Бога.*

*Пасля група атрымала чарговае заданне – прыбіраць на вуліцах смецце. Яго было так шмат, што палова проста згніла і ператварылася ў зямлю. Было незразумела, чаму людзі, маючы такую прыгожую прыроду, не берагуць яе. Многія рабілі заўвагі мясцовым жыхарам, праводзілі з імі гутарку на тэму таго, што смецце трэба выкідваць у сметнік. У панамцаў, як мне падалося, увогуле адсутнічае паняцце чысціні, гэта іх адзіны мінус.*

*Пазней я заўважыла, што мы не маглі нікуды выйсці без суправаджэння валанцёра. Гэта нават трохі раздражняла, таму што хацелася прагуляцца, зрабіць фотаздымкі на фоне фантастычна прыгожых краявідаў ці паехаць на рынак, як сальвадорцы або дамініканцы. Аказалася, такія меры перасцярогі патрэбна было захоўваць з-за таго, што мы жылі ў самай крымінальнай вобласці краіны, дзе быў развіты бандытызм і наркатрафік. Белых людзей тут маглі выкрасці і запатрабаваць выкуп.*

*На развітальным канцэрце ў горадзе Калон, дзе сабралася лацінаамерыканская моладзь з усёй дыяцэзіі, у нас увесь час пыталі, адкуль мы, і не маглі зразумець, што за краіна такая – Беларусь. Наша моладзь была апранута ў беларускія нацыянальныя строі і майкі з беларускім арнаментам, гэта выклікала цікавасць з боку ўдзельнікаў з іншых краін. Дзякуючы нашаму неардынарнаму знешнему выгляду нас заўважыў арцыбіскуп Панамы і нават падышоў, каб павітацца і пагутарыць.*

*Нягледзячы на небяспечныя ўмовы, у мяне засталіся самыя яркія ўражанні ад побыту ў Калон Куна-Яла. А ўсё дзякуючы неверагоднай прыгажосці мясцовай прыроды, дабрыні, жыццярадаснасці, адкрытасці і гасціннасці мясцовых жыхароў.*

*Далей нас чакала Панама-Сіці. Гэта горад, які красаваўся сваімі хмарачосамі і адначасова патанаў у смецці і стыхійных звалках.*

*Нягледзячы на тое, што парафія, якая нас прымала, знаходзілася ў цэнтры горада, мы патрапілі ў бедную сям'ю. Частымі гасцямі ў пакоі былі яшчаркі, мурашкі і нават мыш. На пачатку я грэбліва ставілася да сняданкаў, якія прапанавала гаспадыня. Але пасля стала сорамна за такое стаўленне, бо ўсвядоміла, што гэтыя людзі нічым не горшыя за мяне і Езус любіць іх не менш. Кожны чалавек хоча, каб да яго прыйшоў Хрыстос. І я павінна быць адкрыта на гэтых людзей, бо, магчыма, Ён захоча прыйсці да іх праз мяне. Я кожны раз малілася перад ежай, узгадвала св. Яна, які з Божай дапамогай не памёр, калі выпіў атручанае віно, і спажывала пасілак, каб не пакрыўдзіць гаспадароў, спадзеючыся, што і са мной нічога дрэннага не здарыцца. Нягледзячы на антысанітарыю, я ні разу не атруцілася і ўвогуле не мела праблем са страўнікам. Больш таго, сняданкі ў гэтай сям'і аказаліся такімі смачнымі, што мне стала сорамна за свае думкі. Пажылая гаспадыня рыхтавала ежу нават тады, калі нам трэба было ўставаць а 6-ай раніцы. Было прыемна, што яна пра нас так клапоціцца. Мяркуючы па вялікай колькасці рэлігійнай літаратуры, абразоў і газет з тэматыкай Дзён моладзі, якія нам прыносілі гаспадары, яны былі шчырымі вернікамі і практыкуючымі католікамі. Можа, гэтая сям'я не мела шмат матэрыяльных дабротаў, але была багатая ў духоўным плане.*

*Кожны дзень, ідучы ў касцёл, мы праходзілі міма аднаго напаўразваленага дома, які ўзвышаўся на ўзгорку. Я думала, што дом пустуе і, мабыць, пойдзе пад знос. І якім было маё здзіўленне, калі аказалася, што там жыве шматдзетная сям'я. Аднойчы ўвечары мы, як звычайна, праходзілі міма і ўбачылі 2-ух малых, якія высунуліся ў акно і, надрываючы голасочкі, пачалі спяваць для нас гімн Дзён моладзі.*

*І напрыканцы хачу яшчэ падзяліцца такой гісторыяй. Калі мы ішлі ў поле на вігілію, у адной з нашых паломніц разваліўся абутак. Нідзе паблізу мы не змаглі знайсці краму, каб купіць нават самыя прымітыўныя сланцы. Дзяўчына прыняла з пакорай гэтую сітуацыю і ішла басанож. Усе за яе перажывалі, бо навокал было вельмі брудна, і яна магла пашкодзіць ногі. Яшчэ мы турбаваліся, ці дасць яна рады вярнуцца назад на наступны дзень, паколькі давядзецца крочыць па распаленым ад спёкі асфальце. Кожны стараўся яе падбадзёрыць, развесяліць дзівацкімі ідэямі. У выніку мы вырашылі зрабіць абутак з падручных сродкаў. Хлопцы падзяліліся карыматам, дзяўчаты – ніткамі. У выніку атрымаўся дастаткова сімпатычны абутак, дзяўчына была задаволена. Шчыра кажучы, я крыху непакоілася, што саморобныя тапкі з нетрывалага матэрыялу праз пару метраў развяляцца. Але Бог чыніць цуды: дзяўчына дайшла ў іх да самага дома! Вось так мы разам вырашылі праблему і ў чарговы раз пераканаліся, што сіла ў людзях, а не ў іх матэрыяльным багацці.*





## *Лена Богдан*

*У Сусветных днях моладзі мяне найбольш уразіў асаблівы дух радасці і адкрытасці. Людзі розных нацый, узростаў, культур – усе мы былі адзіныя і роўныя. Куды ні глянь, паўсюль былі шчырыя ўсмешкі, ветлівасць, добразычлівасць. Мы ахвотна распытвалі адзін у аднаго, хто, з кім і адкуль прыехаў, цікавіліся, як справы. Такія сяброўскія зносіны выглядалі цалкам натуральнымі, у той час як у паўсядзённым жыцці было б складана проста так загаварыць з незнаёмцам на вуліцы.*

*Гасціннасць мясцовых жыхароў, іх клопат пра нас сведчылі пра тое, што любоў Хрыста напаўняе іх сэрцы.*

*На гэтай сустрэчы моладзь разам з Папам, намеснікам Хрыста на зямлі, прабывала ў адзіным духу веры, ласкі і любові, што дапамагло наблізіцца да разумення паняцця "Сусветны Касцёл".*

*Дні, праведзеныя ў Панаме, сталі для мяне часам духоўнага ўмацавання. На гэтым шляху было шат цяжкасцей і перашкод, на ім праявіліся ўсе мае слабыя бакі. Але я яго перадолела дзякуючы таму, што была не адна. На ім я таксама спазнала веліч Бога, Яго ўсемагутнасць і зразумела, што "ўсё магу ў Тым, хто мяне ўзмацняе" (Флп 4, 13). Гэтыя словы сталі для мяне дэвізам.*



# ДУМКІ ПРА СДМ АД КС. АНТОНІЯ ГРЭМЗЫ

***Пасля XXXIV Сусветных дзён моладзі ў Панаме дэлегацыя з Беларусі, якая прадстаўляла нашу краіну на гэтай сустрэчы, мела час на асэнсаванне і маленькі адпачынак, а таксама на знаёмства з маляўнічай панамскай зямлёй.***

***Кс. канонік Антоній Грэмза, душпастыр моладзі Гродзенскай дыяцэзіі, дзеліцца сваімі думкамі, якія нарадзіліся пасля інтэнсіўных падзей 2-тыднёвага форуму маладых.***




## ТАКІЯ СУСТРЭЧЫ НЕАБХОДНЫ

**ПЕРШАЯ ДУМКА,** якая нараджаецца ў сэрцы, сігналізуе аб тым, што такія сустрэчы вельмі патрэбны моладзі.

Калі сучаснае грамадства імкнецца да інтэграцыі, то гэтыя імкненні маюць больш віртуальны характар. Глабалізацыя і адначасова адкінутасць з ізаляцыяй не даюць чалавеку доступу да іншага чалавека. Папа Францішак вельмі часта звяртаў увагу на пагрозу ізаляцыі веруючай асобы ў адносінах да Бога і бліжняга. Пан заўсёды пасылае нас да іншых з жыццёвай місіяй, каб дапамагчы пераадолець сучасную ізаляцыю.

У чарговы раз (гэта быў мой 4-ты ўдзел у падобнай сустрэчы) пераконваюся, што Сусветныя дні моладзі – час, калі трэба выйсці з ізаляцыі свайго сэрца. Не палохацца, што нехта не зразумее, бо размаўляем на розных мовах і маем розны колер скуры, не зачыняцца ў сваіх поглядах на жыццё, а вучыцца рабіць іх больш правільнымі і напоўненымі даверам да Хрыста і Марыі. Кожны ўдзельнік сустрэчы меў такую цудоўную магчымасць: выйсці са сваёй духоўнай ізаляцыі.

## ЛЕПШАЕ ПАЗНАННЕ КАСЦЁЛА

**ДРУГАЯ ДУМКА** – пра тое, што кожныя Сусветныя дні моладзі – гэта час на пазнанне адметнасці і багацця паўсюднага Касцёла ў розных кутках свету.

Папа Францішак нагадаў маладзёнам з іншых кантынентаў, што ў Панаме яны адчулі багацце традыцыі Касцёла Лацінскай Амерыкі і ўзбярэжжа Карыбскага мора. Краіна мае сваю адметнасць і непаўторнасць. Іспанскія карані хрысціянства і мясцовая культура індзейцаў сёння вельмі пераплецены паміж сабой. Прыгажосць велічных дамоў і ўзбярэжжа акіянаў вельмі хутка змяняецца правінцыяльнай забруджанасцю і ўбоствам. У такіх умовах чалавек лепш пазнае становішча сучаснага грамадства і цэніць тое, што Бог яму дорыць.

## СПАДАРОЖНІЧАННЕ МАРЫІ

**ТРЭЦЯЯ ДУМКА** заключаецца ў тым, што культ Найсвяцейшай Панны Марыі і Яе заступніцтва адыгрываюць сваю вялікую ролю ў фарміраванні свядомасці і прыналежнасці да Хрыста ўсіх Яго вучняў.

Ушанаванне Маці Божай Старажытнай (di Antiqua) з прыгожай аднаўленай катэдры Панама-Сіці і розныя выявы Панны Марыі ў кожнай каталіцкай святыні Панамы з'яўляюцца доказам таго, што Хрыстовы Касцёл і далей фарміруецца ў промнях матчынай любові Марыі.

На цырымоніі закрыцця XXXIV Сусветных дзён моладзі вельмі красамоўным быў момант, калі папа Францішак даверыў сябе і маладых людзей мацярынскаму заступніцтву Марыі перад Хрыстом.

## УДЗЯЧНАСЦЬ БОГУ

**ЧАЦВЁРТАЯ ДУМКА** – пра тое, што кожная плённа перажытая сустрэча нараджае ўдзячнасць Пану Богу за людзей, якія прымалі ў сваіх дамах удзельнікаў, за дар іх гасціннасці і цеплыні сэрцаў.

Дзякуй Богу за жыхароў Панамы з розных хрысціянскіх супольнасцей, якія дзяліліся з намі сваёй гасціннасцю і маліліся аб спакойным і плённым перажыванні ўдзельнікамі гэтай сустрэчы. А разам з удзячнасцю за людзей, нараджаецца жаданне ў чарговы раз дачакацца і прыняць удзел у Сусветных днях моладзі, якія адбудуцца крыху больш чым праз 3 гады ў Партугаліі.

# Калі невядома, у чым справа, то справа ў любові. Пра чысціню

*"У чалавечай душы дзіра памерам з Бога, і кожны яе запаўнае, як можа".*
*Жан-Поль Сартр*

**Падаецца, што часцей за ўсё ў каталіцкім бачанні чысціня асацыруецца з цялеснасцю, з сексуальнасцю, асабліва, як можна часта пачуць, з перадшлюбнай чысцінёй, г. зн. з адсутнасцю сексу. Ці так гэта? У самім жа акце цялеснай любові няма нічога дрэннага, як і ў сексуальнасці. Разуменне чысціні трэба вывесці па-за кантэкст цела. Яна, як і кожная добрая і наадварот справа, пачынаецца ў галаве ды ў сэрцы, якія пазней, зразумела, падключаюць і наша цела.**

### НЯЧЫСТАСЦЬ – ПРАГА ЛЮБОВІ

Польскі рэкалекцыяніст дамініканец а. Адам Шустак у адным са сваіх навучанняў выказаў цікавую думку: "Нячыстасць – гэта форма шукання любові, неспатоленае жаданне сэрца быць каханым, жаданне, каб быў другі чалавек, які так мяне пакахае, што мне гэтага хопіць". Калі чалавек адчувае недахоп у чымсьці альбо патрэбу чагосьці, то хоча іх заспакоіць. А што, калі гэтая патрэба фундаментальная? Быць каханым – гэта аснова асноў.

Карані недахопу любові неабходна шукаць у дзяцінстве, і вырваць іх здольны толькі Бог. Ідучы далей думкамі польскага святара, можам адзначыць: "Кожны чалавек, нават самы цудоўны, нават той, хто наймацней кахае, не заспакоіць патрэбу любові. Калі хтосьці мае неспатоленую прагу любові ў Пана Бога, калі не запоўніць сэрца Ім самім, то будзе «нячысты», таму што будзе шукаць кагосьці, кім зможа заспакоіцца".

Гэта праяўляецца і ў сяброўскіх адносінах, і ў стасунках паміж закаханымі хлопцам ды дзяўчынай, і паміж мужам ды жонкай. Праяўляецца ва ўзаемным выкарыстоўванні. Нячыстасць – гэта ўжыванне іншага чалавека для заспакаення сваіх патрэб. Калі казаць пра 2 астатнія прыклады, то тут дадаецца і сексуальная сфера.

### ЧЫСЦІНЯ І СЕКСУАЛЬНАСЦЬ

Здзіўленне могуць выклікаць словы папы Паўла VI пра блізкасць мужа і жонкі з энцыклікі "Humanae Vitae": "Акт святы, які заслугоўвае вечнасці – што так чыняць, будуць збаўлены". Здзіўленне – бо праз частую гаворку пра палавыя адносіны перад шлюбам, альбо, хутчэй, пра іх забарону, яны могуць здавацца чымсьці дрэнным і нават грэшным.

Па-першае, гэта няпраўда, калі мы гаворым пра фізічную блізасць паміж мужам і жонкай. У адной са сваіх канферэнцый ужо цытаваны а. Шустак запытаўся, што першае сказаў Бог чалавеку пасля таго, як стварыў яго, з якімі словамі звярнуўся да Адама і Евы? Ён сказаў, каб мужчына і жанчына займаліся каханнем: "І благаславіў іх Бог, і сказаў ім: «Пладзіцеся і размнажайцеся, напаўняйце зямлю і валодайце ёю»" (Быц 1, 28). Секс прыдумаў Пан, і ён з'яўляецца важным і цудоўным спосабам выражэння любові адзін да аднаго, ён служыць яднанню мужа і жонкі. Прынамсі, павінен.

Па-другое, калі гаворка ідзе пра перадшлюбныя палавыя адносіны і пра тое, чаму трэба ўстрымлівацца ад іх, то сэнс тут не з ў забаронах: што можна, а чаго нельга. Сэнс у невыкарыстоўванні другой асобы, у тым, каб секс з каханай ці каханым быў чымсьці большым, чым звычайнае заспакаенне патрэбы. Прычым не толькі фізічнай, але і ўнутранай – той прагі любові, якую мае ў сабе кожны, але ў залежнасці ад унутраных ран заспакойвае яе па-рознаму. Каб гэтаму навучыцца, каб гэтую прагу ўбачыць у сабе і ў той асобе, з якой хочам правесці ўсё жыццё (!), трэба яшчэ перад шлюбам авалодаць майстэрствам слухаць і размаўляць галавой ды сэрцам, бо тады ў сужэнстве будзе нашмат лягчэй гаварыць целам і нашмат працей вырашаць праблемы з інтымным жыццём, якія могуць узнікнуць у шлюбе.

*Кацярына Паўлоўская*







**"Клікні, каб памаліцца"**

***Святы Айцец прадставіў афіцыйную платформу сусветнай сеткі малітвы пад назвай "Click to pray".***

*Малітоўны дадатак даступны як для сістэмы Android, так і для iOS. У ім 3 галоўныя раздзелы. Першы, які называецца "Маліся з Папам", утрымлівае штомесячныя малітоўныя інтэнцыі Святога Айца. 2-гі – "Маліся штодзённа" – пакліканы стымуляваць да рэгулярнай малітвы. 3-ці раздзел – "Маліся ў сеціве" – з'яўляецца прасторай, дзе карыстальнікі дадатка могуць размяшчаць свае малітоўныя просьбы, каб маліцца адзін за аднаго.*




**Асія Бібі канчаткова вызвалена**

***Хрысціянка была асуджана на смерць за нібыта блюзнерства супраць ісламу, а праз 8 гадоў, праведзеных у камеры смяротнікаў, апраўдана Вярхоўным судом Пакістана. З яе знялі ўсе абвінавачванні і вызвалілі.***

*Гісторыя распачалася ў 2010 годзе. Жонка і маці пецярых дзяцей падчас размовы каля студні спыталася ў мусульманак, якія ўгаворвалі яе перайсці ў іслам: "Што для вас учыніў Мухамед?". Пасля чаго дадала: "Дзеля мяне Езус памёр на крыжы". Гэта палічылі блюзнерствам і жанчыну арыштавалі. Як кажа муж Асіі, у турме яе неаднаразова білі і гвалтавалі. Яе здароўе пагоршылася, яна была асуджана на смерць. Аднак не выраклася Хрыста, хоць гэта магло спыніць перaслед. Міжнародная супольнасць змагалася за жыццё і свабоду жанчыны. Пакістанскія ўлады, бясспрэчна, усведамлялі, колькі губляюць у вачах свету, але разам з тым падлягалі вялікаму ціску з боку радыкальных мусульманскіх мас. Разгляд зваротаў доўжыўся амаль да бясконцасці. Нарэшце, у кастрычніку мінулага года Вярхоўны суд апраўдаў Асію. Аднак жанчына не магла пакінуць Пакістан, пакуль не будзе разгледжана апошняя накіраваная супраць яе апеляцыя. У рэшце рэшт, яна была адхілена, а апраўдальны прысуд – пацверджаны. Асія Бібі ўжо далучылася да сваёй сям'і ў Канадзе.*




### Ці можна ўдзяліць сакрамант намашчэння хворых паміраючаму чалавеку супраць яго волі?

*“Сакрамант намашчэння хворых удзяляецца, перш за ўсё, цяжка хворым асобам. Раней ён цэлебраваўся толькі аднойчы як т. зв. “апошняе намашчэнне”. Сёння гэты сакрамант чалавек можа прымаць некалькі разоў за жыццё, знаходзячыся пад пагрозай смерці.*

*Касцёл нікога не прымушае да намашчэння, а толькі прапануе сакраментальную паслугу. Чалавек заўсёды застаецца вольным, у тым ліку і ў небяспечнай для яго здароўя сітуацыі. Ніхто не можа парушыць гэтае права, нават клапоцячыся аб збаўленні бліжняга.*

*Асоба, якая не хоча атрымаць намашчэнне, сама сябе пазбаўляе сакраментальнай ласкі. Гэта можа адбывацца з-за настойлівага трывання ў цяжкім граху, без жалю і жадання выправіцца. Здараюцца сітуацыі, калі хворы ці пажылы чалавек знаходзіцца ў поўнай свядомасці, здольны без складанасці размаўляць і, маючы на сумленні цяжкія грахі, прагне паяднацца з Богам. Але да споведзі адносіцца прадузята: не прызнае яе абавязковасці і не збіраецца прыступаць да сакраманту пакаяння. У выпадку, калі хворы ў адказ на спробы растлумачыць, што гэта неабходны сродак паяднання з Богам, устаноўлены Езусам Хрыстом, надалей адмаўляецца ад споведзі, на жаль, яму нельга ўдзяляць сакрамант намашчэння хворых столькі часу, пакуль у яго будзе дастаткова сіл, каб паспавядацца. Удзяленне намашчэння непрытомным хворым, якія доўга хварэлі і не выражалі жадання прыступіць да сакраманту, мае антывыхаваўчы характар. У выпадку, калі хворы ўхіляецца ад прыняцця сакраментальнай ласкі і наступае смерць, неабходна адразу запрасіць святара, каб разам памаліцца за памерлага.*

*Кс. Юрый Бяганскі*
***Паводле grodnensis.by***

# Найбольшая з цнотаў

*У сучасным свеце шмат гаворыцца пра любоў. Аднак гэтае паняцце было так перакручана, што многія страцілі веру ў яе. Мы як хрысціяне добра ведаем, што любоў з’яўляецца падмуркам, на якім неабходна будаваць святасць, паколькі сам Хрыстос найважнейшай запаведдзю прызнаў наступную: любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, а бліжняга твайго, як самога сябе (параўн. Мц 22, 37–39). Дык якім чынам разумеецца любоў у каталіцкай тэалогіі? Чым з’яўляецца? Якія мае рысы?*

## ТЭАЛАГІЧНЫЯ ЦНОТЫ

Кожная асоба, якая прымае хрост, атрымлівае асвячаючую ласку, якая робіць яе ўдзельнікам жыцця і натуры Усемагутнага. Такім чынам чалавек становіцца Божым дзіцём. Разам з ласкай Стварыцель улівае ў чалавечую душу 3 цноты: веру, надзею і любоў. Менавіта па гэтай прычыне побач з назвай “тэалагічныя цноты” функцыянуе іншая – “улітыя цноты”. “Яны робяць хрысціян здольнымі жыць у еднасці з Найсвяцейшай Тройцай. Іх пачаткам, прычынай і непасрэдным аб’ектам з’яўляецца Трыадзіны Бог” (ККК 1812). “Яны фарміруюць, натхняюць і характарызуюць маральныя дзеянні хрысціяніна. [...] Яны ўліваюцца Богам у душы вернікаў, каб даць ім здольнасць дзейнічаць як Божым дзецям і заслужыць вечнае жыццё. З’яўляюцца задаткам прысутнасці і дзеяння Святога Духа ў здольнасцях чалавека” (ККК 1813). Такім чынам, тэалагічныя цноты яднаюць нас з Усемагутным і ўмацоўваюць на шляху да святасці.

**Вера** дапамагае верыць у Бога і Яго Аб’яўленне. Дзякуючы ёй чалавек прагне пазнаваць волю Стварыцеля і выконваць яе (параўн. ККК 1814). Аднак недастаткова верыць у сэрцы, трэба вызнаваць сваю веру, адважна сведчыць аб ёй і распаўсюджваць (параўн. ККК 1816). “Так кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, і Я прызнаю перад Айцом Маім, які ў нябёсах. А хто адрокся б ад Мяне перад людзьмі, ад таго і Я адракуся перад Айцом Маім, які ў нябёсах” (Мц 10, 32–33). Трэба таксама памятаць, што вера без учынкаў мёртвая (параўн. Як 2, 26).

Дзякуючы **надзеі** “мы прагнем як нашага шчасця Нябеснага Валадарства, падмацоўваючы свой давер абяцаннямі Хрыста і атрымліваючы дапамогу праз ласку Святога Духа” (параўн. ККК 1817). Гэтая цнота ачышчае чалавечыя дзеянні, каб “падпарадкаваць Валадарству Нябеснаму, абараняе ад маркоты, падтрымлівае ў пакінутасці, адкрывае сэрца ў чаканні вечнага шчасця. Парыў надзей захоўвае ад эгаізму і вядзе да шчасця любові” (параўн. ККК 1818). Такім чынам, надзея дадае сіл, каб нягледзячы на выпрабаванні і цяжкасці, давяраючы Божай міласэрнасці, крочыць наперад у імкненні да святасці.

**Любоў** – гэта цнота, “дзякуючы якой мы любім Бога па-над усё, найперш дзеля Яго самога, а свайго бліжняга – як саміх сябе, дзеля любові да Бога” (ККК 1822). Менавіта яна з’яўляецца фундаментам хрысціянскай дасканаласці. Чым глыбей мы ўмеем любіць, тым бліжэй да Божага Валадарства знаходзімся (параўн. ККК 1827). “Плён любові – радасць, мір і міласэрнасць; яна патрабуе шчодрасці і братняга настаўлення; яна з’яўляецца зычлівасцю; яна спараджае ўзаемнасць, застаецца бескарыслівай і шчодрай; яна ёсць сяброўства і камунія” (ККК 1829). Як сцвярджае св. Павел у Першым пасланні да Карынцянаў, любоў – найбольшая з 3-ох цнотаў (параўн. 1 Кар 13, 13). Прыглядзімся да яе бліжэй.

## ШТО ТАКОЕ ЛЮБОЎ

Перш за ўсё, трэба ўсвядоміць сабе, што любоў у хрысціянскім разуменні – гэта жаданне дабра іншай асобе. Такім чынам, яна з’яўляецца не пачуццём, а свядомым і добраахвотным выбарам. Чалавек, здольны да любові, дзякуючы атрыманай падчас хросту ласцы сам прымае рашэнне, ці хоча любіць.

Чалавечую любоў можна падзяліць на 3 этапы:

*1) любоў да Бога;*
*2) любоў да самога сябе;*
*3) любоў да бліжняга.*

Кахаючы Усемагутнага, мы вучымся дасканалай любові, якая ачышчае нас і робіць здольнымі кахаць сябе і іншых. Дастаткова таго, што мы ўсведамляем сабе веліч Хрыстовага ўчынку, каб адчувальнае сэрца ўжо не магло адмовіцца ад любові да Яго. “Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх” (Ян 15, 13). Палюбіўшы Бога ўсім сэрцам, будзем асцерагацца граху. Бо ніхто ж не жадае свядома пакрыўдзіць каханую асобу. А добра ведаем, што здзейсненае намі зло абражае Усемагутнага. Месія заклікаў апосталаў: “Заставайцеся ў Маёй любові. Калі будзеце захоўваць Мае запаведзі, застанецеся ў любові Маёй” (Ян 15, 9–10). Таму самы надзейны шлях, каб засведчыць Богу аб сваёй любові, – выкананне Яго запаведзяў. Нельга грэбаваць гэтай умовай, трэба памятаць, што кожная з іх аднолькава важная.

Калі нам удасца адкрыцца на Божую любоў і вярнуць яе, здолеем палюбіць таксама сябе. Не эгаістычнай “любоўю”, а натуральнай, правільнай. Яна заключаецца найперш у прыняцці саміх сябе такімі, якія мы ёсць. Гэта датычыцца адначасова знешняга выгляду, як і таго, што ў нас унутры. Ніхто не ідэальны. Кожны мае нейкія мінусы і плюсы. Бог стварыў нас менавіта такімі і такімі ж бязмежна палюбіў. Магчыма, у вачах свету хтосьці запоўны ці завысокі, мае задоўгі нос ці адтапыраныя вушы, але ў вачах Пана ён цудоўны! Што ж датычыць нашага нутра – характару і тэмпераменту – вядома, што маем перамагаць свае слабасці, нястомна развівацца і імкнуцца да дасканаласці. Я ўпэўнена, што не аднаму чалавеку сваякі ці акружаючыя людзі часам сцвярджалі, што ён кепскі і нікуды не годны. Гэта вельмі знеахвочвае. Аднак нельга апускаць рукі і паддавацца. Па-першае, трэба прыгадаць сабе, што Бог цябе любіць. Па-другое, усвядоміць: важна тое, што ты стараешся (аднак гэта не павінна стаць апраўданнем кожнай няўдачы). Па-трэцяе, неабходна прыняць сябе. Як трапна заўважыў адзін святар падчас рэкалекцый, “я – гэта мае добрыя якасці і недахопы”. Каб магчы прыняць сябе, трэба заўважаць і прыняць таксама і ўласныя дрэнныя бакі. Паколькі наша “я” складаецца як з плюсаў, так і з мінусаў.

Калі ўжо навучымся любові да сябе, нам не будзе цяжка пакахаць бліжняга. Калі прымем сябе такімі, якія мы ёсць, і ўсвядомім, што ніхто не ідэальны, у тым ліку і мы самі, здолеем рэальна паглядзець на бліжніх, не патрабуючы ад іх звыш меры, са зразуменнем прымаючы іх слабасці. “Якой мераю мераеце, такой і вам будзе адмерана” (Лк 6, 38).

Давайце яшчэ раз узгадаем: любоў з’яўляецца жаданнем дабра для іншых. Аднак варта памятаць, што ўсякае дабро без любові не мае сэнсу: “Калі я гавару мовамі людзей і анёлаў, а любові не маю, я – як медзь звонкая або гулкія цымбалы. Калі маю дар прароцтва і спазнаў усе таямніцы, і маю ўсякія веды і паўнату веры, каб перастаўляць горы, а любові не маю, то я – нішто. Калі раздам усю маёмасць сваю і аддам цела сваё на спаленне, а любові не маю, няма мне з гэтага ніякай карысці” (1 Кар 13, 1–3).

### ЯКАЯ ЯНА – ЛЮБОЎ

Спіс рысаў дасканалай любові склаў яшчэ св. Павел. Нягледзячы на тое, што свет рухаецца наперад, яны застаюцца нязменнымі. Давайце прыглядзімся да кожнай з іх.

- ***Любоў доўгацярплівая, г. зн. спакойная і стрыманая, але стойкая і нястомная. Яна не баіцца выклікаў, не ўцякае ад праблем.***
- ***Любоў ласкавая, г. зн. міласэрная. Аказвае дабро і здольна прабачыць.***
- ***Любоў не зайздросціць, г. зн. умее цешыцца радасці бліжняга. Здольна таксама цалкам даверыцца іншаму чалавеку, каб не сумнявацца ў яго вернасці і шчырасці.***
- ***Любоў не ганарыцца, г. зн. не шукае ўзнагарод і прызнання. З’яўляецца бескарыслівай. Нічога не хоча ўзамен.***
- ***Любоў не пыхлівая, г. зн. сціплая. Ведае, што ўсім добрым у сабе абавязана Богу, таму ўсведамляе, што не мае чым ганарыцца.***
- ***Любоў не бессаромная, г. зн. цэніць чысціню як душы, так і цела.***
- ***Любоў не шукае свайго, г. зн. на першае месца ставіць дабро і жаданні іншай асобы.***
- ***Любоў не гневаецца, г. зн. умее кантраляваць эмоцыі. Яна лагодная і памяркоўная.***
- ***Любоў не памятае зла, г. зн. здольна не толькі дараваць, але і пакінуць гэта ў мінулым і больш да яго не вяртацца.***
- ***Любоў не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай, г. зн. цэніць сумленнасць і шчырасць.***
- ***Любоў усё зносіць, г. зн. з усім згаджаецца, з пакорай прымае як добрае, так і дрэннае.***
- ***Любоў усяму верыць, г. зн. не падазрае ў падмане.***
- ***Любоў на ўсё спадзяецца, г. зн. давярае на 100 адсоткаў.***
- ***Любоў усё цярпіць, г. зн. ніколі не здаецца.***
- ***Любоў ніколі не мінае, г. зн. ніколі не заканчваецца.***

Любоў з’яўляецца адным з асноўных кампанентаў чалавечага збаўлення. На першы пагляд яна настолькі штодзённая, што ў ёй няма нічога складанага. Але наколькі ж на самай справе яна патрабуючая! Гэта прыгожа адлюстраваў у адным са сваіх вершаў кс. Ян Твардоўскі: “Забудзься, што ёсць ты, калі кажаш, што любіш”. Асцерагаймася, каб не прыніжаць любоў у сваім жыцці. Без яе немагчыма дасягнуць збаўлення.

*Вікторыя Сідар*

НАВІНЫ



# ДЗЕНЬ КАНСЭКРАВАНАГА ЖЫЦЦЯ

2 лютага ў Гродне адбылася сустрэча манаскіх сясцёр і айцоў, якія служаць на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі. Яна была прымеркавана да Дня кансэкраванага жыцця, які адзначаецца ў Каталіцкім Касцёле па волі св. папы Яна Паўла ІІ ужо ў 23-ці раз.

Кансэкраваныя асобы разам дзякавалі Богу за дар, якім з'яўляецца манаскае жыццё для Паўсюднага Касцёла, для іх саміх і ўсяго свету. У межах сустрэчы яны прынялі ўдзел у канферэнцыі, трывалі на адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту. Кульмінацыяй свята стала Эўхарыстыя ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя, якую ўзначаліў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі іерарх адзначыў, што кожны манах з'яўляецца для свету "прыгожым і вельмі неабходным знакам".

Пастыр Гродзенскай дыяцэзіі выразіў сабраным сёстрам і айцам удзячнасць за нястомную малітоўную падтрымку, якую яны велікадушна і бескарысліва аказваюць Касцёлу. Падзякаваў за паслугу на карысць дзяцей, моладзі, дарослых, хворых і церпячых асоб, а таксама ўсіх тых, сярод каго яны штодзённа знаходзяцца. "Гэтая нябачная, стрыманая, але вельмі эфектыўная падтрымка з'яўляецца ўнутраным багаццем Касцёла, яго надзейнай духоўнай базай", – дадаў іерарх.

Падчас св. Імшы кансэкраваныя асобы з палаючымі грамнічнымі свечкамі ў руках аднавілі манаскія абяцанні: чысціні, убоства і паслухмянасці.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



2-гі семестр навучальнага года ў гродзенскай семінарыі распачаўся днём засяроджання, які правёў канцлер курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кс. канонік Дзмітрый Пухальскі.

У семінарыйнай капліцы адбылася св. Імша з удзелам алюмнаў, падчас якой кс. бп Юзаф Станеўскі дзякаваў Пану Богу за 5-ую гадавіну біскупскай сакры. Іерарх таксама выразіў удзячнасць за ўсіх людзей, якіх Божы Провід ставіць на яго шляху, і папрасіў аб малітве ў яго інтэнцыі.

## КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



У Сапоцкінскім культурна-гістарычным цэнтры адкрыўся музей мініяцюр вядомых сакральных помнікаў Гродзенскага раёна. У музейным пакоі пад назвай "Нам засталася спадчына" прадстаўлена каля 2-ух дзясяткаў паменшаных копій архітэктурных помнікаў – касцёлаў і цэркваў. Усе працы выкананы з керамікі майстрамі з аграгарадка Верцялішкі.

У цэнтры экспазіцыі, як і на карце раёна, – горад Гродна, прадстаўлены макетамі Фарнага касцёла, Каложскай царквы і вядомай пажарнай каланчы. На выставе можна таксама ўбачыць паменшаныя копіі іншых культавых аб'ектаў рэгіёна: напрыклад, касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Сапоцкіне, касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Індуры, гістарычную драўляную святыню ў Прывалцы.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Дэлегацыя маладых людзей з Гродзенскай дыяцэзіі, разам з кс. б-пам Юзафам Станеўкім вярнулася з XXXIV Сусветных дзён моладзі ў Панаме. Чарговы сусветны форум маладых, у якім ужо сёння плануюць прыняць удзел маладзёны з нашай краіны, адбудзецца ў 2022 годзе ў Лісабоне (Партугалія).

## АДНЫМ РАДКОМ

• З нагоды літургічнага ўспаміну св. Францішка Ксаверыя ў Смаргоні адбыўся "Мядовы фэст". • У Міжнародным дні памяці ахвяр халакосту жыхары Гродна прайшлі слядамі ахвяр. • Прадстаўнікі розных канфесій і грамадскіх аб'яднанняў запалілі ў гродзенскай сінагозе 6 свечак як сімвалічны напамін пра 6 мільёнаў яўрэяў, якія загінулі ў выніку фашысцкага генацыду ў Еўропе. • Апостальства дапамогі чысцовым душам адзначыла 10-годдзе свайго існавання на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі. • Успамін св. Яна Боско адзначылі ў Смаргоні. • Вечар музыкі і паэзіі прайшоў у кляштары ў Шчучыне. • Каманды хлопцаў з Гродна і Іўя прынялі ўдзел у XXVIII Міжнародным турніры па футболе ў Варшаве (Польшча) і заваявалі першыя месцы. • Навагрудак наведала фігура св. Міхала – нябеснага апекуна горада і Касцёла ў Беларусі. • У кляштары сясцёр кармэлітак у Гудагаі адбыліся Дні малітвы для дзяўчат.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

АНОНСЫ

## ЦЫКЛ СУСТРЭЧ ПА ХРЫСЦІЯНСКІМ ВЫХАВАННІ ДЗЯЦЕЙ ПРАХОДЗІЦЬ У ГРОДНЕ

**Яго праводзяць хрысціянскі псіхолаг, арт-тэрапеўт Вольга Парада і кансультант па пытаннях сямейнага жыцця, пачынаючы псіхолаг Анжэла Кузікевіч.**

Спатканні ладзяцца ў кляштары сясцёр назарэтанак пры пабрыгіцкім касцёле кожную 4-ую нядзелю месяца ў 17.00.

Бліжэйшая сустрэча на тэму "Бацькоўскае выгаранне" адбудзецца 24 лютага. У ёй могуць прыняць удзел усе жадаючыя, асабліва бацькі, якія адказна ставяцца да хрысціянскага выхавання сваіх дзяцей.

## ТРАКЕЛЬСКІ САНКТУАРЫЙ ПРАЦЯГВАЕ КОНКУРС!

**Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях працягвае конкурс на лепшы верш, песню ці відэаролік на тэму "Маці Божая Тракельская, вядзі нас за сабой".**

Конкурс праводзіцца ў 3-ох узроставых групах:
– дзеці (да 16-ці гадоў);
– моладзь (ад 16-ці да 30-ці гадоў);
– дарослыя (ад 30-ці гадоў).

*Свае творы можна дасылаць да 1 красавіка 2019 года на электронную скрыню trokiele@tut.by або па пошце на адрас: в. Тракелі, вул. Лідская, д. 61А, 231372, Воранаўскі раён, Гродзенская вобласць. Работы неабходна суправадзіць подпісам, указаўшы сваё імя, прозвішча, узрост і адрас пражывання.*

*Пасля падвядзення вынікаў у тракельскім санктуарыі адбудзецца св. Імша ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў конкурсу, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Акрамя таго, лепшыя творы будуць надрукаваны ў спецыяльна выдадзенай з гэтай нагоды кнізе.*

## ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ РЫХТУЕ АЛЬБОМ ПРА ГІСТОРЫЮ ПРЫДАРОЖНЫХ КРЫЖОЎ

**У сувязі з гэтым вернікі дыяцэзіі запрашаюцца да збору і перадачы інфармацыі, якая датычыць крыжоў, што знаходзяцца на тэрыторыі іх парафій.**

*Гэта могуць быць архіўныя дакументы, успаміны і сведчанні парафіян, сучасныя ці гістарычныя здымкі. Матэрыялы неабходна асабіста дастаўляць у дыяцэзіяльную курыю ў Гродне (можна перадаваць праз сваіх душпастыраў) або дасылаць на электронны адрас: grodnensis@gmail.com, пазначыўшы тэму ліста як "Прыдарожныя крыжы".*

## ДАВЕДАЙСЯ БОЛЬШ ПРА ЖЫЦЦЁ КАТАЛІЦКАГА КАСЦЁЛА НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

**Новую інфармацыю, здымкі, відэа можна штодзённа знайсці на афіцыйным інтэрнэт-партале Гродзенскай дыяцэзіі.**




### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**10 лютага 1948 г.** – кс. Раман Паноха, *вік. Радунь;*
**10 лютага 2003 г.** – кс. прэлат Люцыян Вайцяхоўскі, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**13 лютага 1959 г.** – кс. Павел Сенкевіч, *ген. вік., проб. Гудагай;*
**15 лютага 1972 г.** – кс. Міхал Шалкевіч, *проб. Тракелі;*
**21 лютага 1979 г.** – кс. Станіслаў Казлоўскі, *проб. Баруны;*
**23 лютага 1985 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна.*

## Каляндар падзей

***11 лютага***
*Сусветны дзень хворых.*

***14 лютага***
*Свята свсв. Кірыла і Мятода, заступнікаў Еўропы.*

***22 лютага***
*Свята Катэдры св. апостала Пятра. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі Святога Айца Францішка і Паўсюднага Касцёла.*

***23 лютага***
*Успамін св. Палікарпа, біскупа і мучаніка.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***
*Аб захаванні духоўнай еднасці паміж вернікамі і святарамі, паміж святарамі і нашым біскупам Аляксандрам. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Дзіцячы куточак

# Гісторыя пра св. Валянціна

***Прывітанне, Маленькі Чытач! У апошнім нумары Ты пазнаёміўся са св. Францішкам Сальскім, а сёння хачу Табе распавесці гісторыю пра св. Валянціна. Яго ўспамін адзначаецца 14 лютага. Дзень св. Валянціна – самае рамантычнае свята! Ва ўсім свеце яго святкуюць як Дзень закаханых: хлопчыкі і дзяўчынкі, мужчыны і жанчыны абменьваюцца "валянцінкамі" – віншавальнымі паштоўкамі ў форме сэрца. Такая традыцыя з'явілася вельмі даўно, яшчэ ў VII стагоддзі. І вось, як гэта сталася.***

*Св. Валянцін жыў у першых стагоддзях хрысціянства, падчас вялікіх ганенняў. У той час пісаць біяграфіі было забаронена, таму іх перадавалі з вуснаў у вусны. Ты, думаю, можаш уявіць сабе, што такім чынам многія факты з жыцця святога былі забыты, некаторыя неаднаразова змяняліся, а іншыя былі проста прыдуманы для таго, каб дадаць біяграфіі больш колеру. Адно вядома дакладна – св. Валянцін з'яўляецца сапраўднай постаццю. Ён жыў у Церні, у цяперашняй італьянскай Умбрыі. Некаторыя крыніцы сцвярджаюць, што ён быў урачом, але адмовіўся ад сваёй прафесіі і стаў рымскім святаром.*

*Падчас кіравання імператара Клаўдзія Рым быў уцягнуты ў крывавую вайну да такой ступені, што мужчыны не хацелі ісці ў войска. Імператар вырашыў, што прычынай гэтаму было іх нежаданне пакідаць сваіх жонак. Таму адмяніў усе запланаваныя вяселлі. Святар Валянцін дапамагаў парам, жаніў іх таемна. Урэшце прэфект Рыма арыштаваў яго і хацеў сілай прымусіць адрачыся ад Хрыста. Св. Валянціна білі палкамі, а калі гэта не прынесла ніякіх вынікаў, яго пакаралі смерцю.*

*У іншых легендах можна прачытаць, што святы вылечыў хворага на эпілепсію маленькага хлопчыка, пасля чаго ўся яго сям'я прыняла хрост. Гэта стала прычынай смяротнага прысуду, вынесенага святару. Пакаранне было запланавана на 14 лютага 269 года. Да гэтага ў турме св. Валянцін пасябраваў з дачкою вартаўніка, якая наведвала яго і падымала настрой, хоць сама была сляпой. Каб аддзячыць ёй, св. Валянцін пакінуў развітальны ліст у форме сэрца, на якім напісаў: "Ад твайго Валянціна". Пасля атрымання гэтага ліста, дзяўчына стала бачыць.*

*З часам постаць святара Валянціна пачалі блытаць з іншым мучанікам, які меў тое ж самае імя. Некаторыя даследчыкі нават сцвярджаюць, што гаворка аб адным і тым жа чалавеку. У 197 годзе ён быў біскупам Церні ў Умбрыі. Быў вядомы тым, што першым благаславіў шлюб паміж паганцам і хрысціянкай, а таксама высылаў лісты да сваіх вернікаў аб любові да Хрыста. Ён загінуў у Рыме ў 273 годзе, няспынна навяртаючы язычнікаў. Сёння менавіта ён з'яўляецца больш вядомым, і да яго магілы ў катэдры ў Церні прыходзяць паломнікі. На срэбным рэлікварыі, які захоўвае яго астанкі, змешчаны надпіс: "Святы Валянцін, заступнік закаханых".*

*Ёсць яшчэ адна вельмі прыгожая легенда пра св. Валянціна. Яна распавядае, што ў святога быў сад, дзе ён вырошчваў ружы. Дзеці з усёй акругі гулялі ў гэтым садзе, а ўвечары, калі збіраліся дадому, мужчына ўручаў кожнаму па кветцы ў падарунак для маці. Калі Валянціна пасадзілі ў турму, ён быў засмучаны тым, што цяпер дзеткам не будзе, дзе гуляць. Аднойчы святы ўбачыў, што за турэмнымі кратамі буркуюць два галубы, і адразу ж пазнаў іх. Гэта былі птушкі, якія гнездаваліся ў яго садзе. Валянцін прывязаў на шыю аднаго голуба ключык ад саду, а другога – ліст, у якім напісаў пасланне: "Усім дзецям, якіх я люблю, ад вашага Валянціна".*

*Вось такая цікавая гісторыя з'яўлення "валянцінак". Паступова Дзень св. Валянціна з каталіцкага свята ператварыўся ў свецкае. Яго адзначаюць з задавальненнем, хоць яно і не пазначана ў календары сярод афіцыйных свят. У нашай краіне Дзень св. Валянціна сталі адзначаць параўнальна нядаўна – дзесьці ў канцы мінулага стагоддзя. Прычым, у гэты дзень усе віншуюць не толькі сваіх каханых, але і сяброў. Што ж, чаму б і не? Бо гэта цудоўная нагода пажадаць сябрам любові і шчасця! Дарэчы, у Фінляндыі 14 лютага сапраўды святкуецца не толькі як Дзень закаханых, але і як Дзень сяброў! Таму нам, Маленькі Чытач, варта ў гэты дзень памаліцца да св. Валянціна за ўсіх, хто блізкі сэрцу.*

**Заданне:** ***Падрыхтуй паштоўкі для сваіх блізкіх і напішы 5 якасцей, за якія іх шануеш. Увечары разам з сям'ёй памаліся да св. Валянціна, каб даў усім Вам мужнасць вызнаваць сваю веру і сведчыць аб любові да Бога кожнаму чалавеку.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA, салезіянка са Смаргоні*

# Ад шчырага сэрца

**Дарагому Сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Праз нашы малітвы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Цябе моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая нястомна апекуецца, а Святы Дух адорвае Цябе сваімі шчодрымі дарамі.

*Мама і тата*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды Імянін жадаем моцы Святога Духа на кожны дзень жыцця і душпастырскай паслугі, надзейнай апекі святога Заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Новай Руды*

**Дарагім Аляксею і Наталлі Міклаш**

з нагоды 20-годдзя шлюбу шчыра жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, глыбокай узаемнай любові, ясных дзён, добразычлівых людзей побач, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці і Божага блаславення. Няхай Святая Сям'я нястомна будзе для Вас прыкладам і ўзорам для пераймання.

*Бацькі, дачушкі*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі будзе шчаслівы і бласлаўлёны, Бог адорвае доўгім жыццём у здароўі і заўсёды падтрымлівае ў цяжкія моманты, а Маці Божая атуляе сваёй мацярынскай любоўю і апекай. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беліцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Каноніку Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю і нязгасным запалам у адданай паслузе Богу і людзям, Маці Божая атуляе сваім плашчом і цеплынёй свайго сэрца, ласкай і дабрынёй, а Дух Святы асвячае дарогу, па якой мы ідзём разам з Вамі. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву і абвяшчэнне Божага слова.

*З дарам малітвы, удзячныя вернікі з парафіі св. Казіміра ў Путрышках*

**Паважанага Ксяндза Вячаслава Матукевіча**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна віншуем і жадаем моцнага здароўя ад Бога Айца. Няхай сіла Вам даецца, і, як Сэрца Езуса, Ваша сэрца прамяніцца. Няхай ад Святога Духа сыходзяць мудрасць і ўменне, а ад Маці Божай – разважнасць і задавальненне. Дзякуем бацькам за сына святара.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Дудаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усяго самага найлепшага: моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастырскай працы. Няхай Маці Божая і святы Заступнік апекуюцца Вамі кожны дзень, а ўсемагутны Бог адкрывае свае далоні для Вас і шчодра бласлаўляе.

*Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

**Паважанай Сястры Агаце Смольскай**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог узнагародзіць здароўем на доўгія гады і дадасць стойкасці ў паслузе, Езус Хрыстус няхай асвячае шлях, Найсвяцейшая Маці заўсёды апекуецца, а святая Агата апраменьвае кожны дзень жыцця ды адорвае радасцю і цярплівасцю.

*Са шчырай малітвай, удзячныя Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Мы вельмі ўдзячны Богу за Вас, за сакраманты, якія нам удзяляеце, за тое, што корміце нас Божым целам і Яго словам, адкрываеце дар Эўхарыстыі як крыніцу сіл, моцы і святла ў штодзённым жыцці, а таксама за клопат пра касцёл.

*Вернікі з Бердаўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае сваімі ласкамі, Святы Дух асвячае шлях, Панна Марыя апекуецца Вамі і вядзе найпрыгажэйшай сцежкай да свайго Сына, а кожны дзень прыносіць радасць.

*Былыя парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у в. Лойкі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, мноства прыгожых, спакойных, сонечных і бласлаўлёных дзён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Святы Дух спасылае свае дары. Шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень святарскай паслугі і добрых людзей побач. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Грандзічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады святарскай паслугі, шчырых і верных людзей побач, вялікай Божай ласкі і няспыннай апекі Марыі Панны на шляху служэння Богу і людзям. Жадаем такой моцнай веры, як самы вялікі алмаз, такой нязгаснай надзеі, як гарачае летняе сонца, такой вялікай Божай любові, як увесь Сусвет. Няхай Ваша сэрца і розум ніколі не стамляюцца абвяшчаць людзям Божае слова, а добры Бог няхай аддзячыць за нястомную працу на Яго ніве.

*З удзячнасцю, парафіяне з в. Бакшты*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 641 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная